# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№10 (257)

кастрычнік 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## Беларусы ў эміграцыі пачынаюць больш размаўляць па-беларуску

Цэнтр дыялогу імя Юльюша Мерашэўскага апублікаваў вынікі даследавання "Беларуская эміграцыя ў Польшчы". Мы выпісалі для вас самае цікавае.

Старонка 5





# Наталля Гардзіенка: У БЕЛАРУСІ Ў ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУЦЫ АДБЫВАЕЦЦА КАТАСТРОФА

У Беларусі працягваецца пераслед гісторыкаў, для многіх з якіх улада ўвяла фактычную забарону на прафесію. Гутарка з гісторыкам, кандыдатам навук, галоўнай рэдактаркай альманаху "Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва" Наталляй Гардзіенкай.

### "У эміграцыі асаблівую важнасць набываюць кантакты з суайчыннікамі – калегамі-аднадумцамі"

**– Нядаўна вы ўдзельнічалі ў працы Кангрэсу даследнікаў Беларусі, які прайшоў у Гданьску. Якія вашыя ўражанні ад гэтага вялікага навуковага сходу?**

– Я ўдзельнічаю ў Кангрэсах даследнікаў Беларусі ад самага першага, з невялікімі перапынкамі, і заўсёды для мяне гэта важнае мерапрыемства. Цягам колькіх гадоў я арганізоўвала спецыяльныя панэлі па гісторыі і культуры беларускага замежжа, а на старонках альманаху "Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва", які рэдагую, публікаваліся даклады ўдзельнікаў тых панэляў.

Ковід і падзеі 2020 года змянілі сітуацыю і для мяне асабіста, і для шмат каго з маіх калег, і для арганізатараў Кангрэсу. Цяперашні форум у Гданьску стаў добрай магчымасцю ўжо ў новых умовах пабачыцца з калегамі, уявіць, дзе хто цяпер знаходзіцца, чым жыве і займаецца. У эміграцыі, як мне здаецца, асаблівую важнасць набываюць кантакты з суайчыннікамі – калегамі-аднадумцамі, і гданьскі Кангрэс даў мне магчымасць гэткіх кантактаў.

Арганізатары Кангрэсу чарговы раз зрабілі вялікую працу, каб сабраць разам колькі соцень даследнікаў, даць магчымасць агучыць свае даклады, абмеркаваць актуальныя праблемы, а разам з тым яшчэ й пазнаёміцца з новым горадам. Удзельнічала ў кангрэсах і ў Коўне, і ў Вільні, і ў Варшаве. У кожным горадзе былі свае асаблівасці ў арганізацыі мерапрыемства, паўсюль бываюць і цікавосткі, і тэхнічныя складанасці, што непазбежна. Гданьск запомніцца і арыгінальным музеем Другой сусветнай вайны, у якім адбываліся асноўныя мерапрыемствы, і развадным мостам, да часу апускання якога трэба было прыстасоўвацца, і шыкоўнымі відамі гораду ў часе пераходаў паміж пляцоўкамі Кангрэсу. Магу сказаць, што я была б рада, калі б нейкі з наступных кангрэсаў зноў адбыўся ў Гданьску.

### "Кангрэс рызыкуе ўрэшце ператварыцца ў цалкам эміграцыйнае мерапрыемства"

**– Арганізатары Кангрэсу ацанілі ягоныя вынікі як катастрафічныя, найперш беручы пад увагу склад і геаграфію ягоных удзельнікаў. А па-вашаму, наколькі плённым быў гэты вялікі навуковы сход?**

– Мне складана ацэньваць плён працы ўсяго Кангрэсу, на якім было 14 тэматычных кірункаў і каля паўсотні панэляў, круглых сталоў, прэзентацый і іншых мерапрыемстваў. Тут традыцыйна былі, акрамя маіх калег-гісторыкаў, і палітолагі, і сацыёлагі, і эканамісты, і правазнаўцы, і літаратуразнаўцы, і журналісты, і шмат іншых спецыялістаў. Для кожнага плён будзе свой. Таму я магу казаць толькі пра тое, чым стаў Кангрэс для мяне асабіста.

Я выступала з расповедам пра тое, як прадстаўнікі беларускай эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны збіралі і пашыралі ў заходнім грамадстве інфармацыю пра ахвяр рэпрэсій у Беларусі 1920–1940-х гадоў.

Працяг на старонцы 3.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# АБВЕШЧАНЫ НОВЫ ЗБОР ПРАЦ УКРАІНСКІХ І БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ДЛЯ ПРАЕКТА #FREEALLWORDS

Праект #FreeAllWords адкрывае другі сезон і запрашае да ўдзелу ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў, якія працягваюць займацца творчасцю ва ўмовах расійскай ваеннай агрэсіі на тэрыторыі Украіны і беспрэцэдэнтных палітычных рэпрэсій у Беларусі.

Ініцыятыва #FreeAllWords заснаваная Еўрапейскай радай пісьменнікаў (EWC). Для праекта працуюць перакладчыкі – носьбіты 13 моў Еўропы, і гэтае кола пастаянна пашыраецца. #FreeAllWords асуджае злачынствы расійскай дзяржавы ва Украіне і ставіць на мэту пазнаёміць еўрапейскую аўдыторыю з творчасцю украінскіх і беларускіх аўтараў у час жахаў вайны і рэпрэсій.

Праект праводзіць адбор прац на конкурснай аснове. Для ўдзелу запрашаем дасылаць тэксты (не болей за 7 тысяч знакаў з прабеламі) зназнакай "аўтар/аўтарка" на адрас: contact@freeallwords.org . Прымаюцца як вершы, так і проза.

У першую чаргу разглядаюцца тэксты, якія адпавядаюць тэме праекта і на якія аўтар мае эксклюзіўныя правы (не перададзеныя трэцяй асобе). Адбор тэкстаў ажыццяўляе адмысловае журы, якое складаецца з прадстаўнікоў пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый Украіны, Літвы і Беларусі. Пасля перакладу на еўрапейскія мовы творы размяшчаюцца на сайце праекта, а з аўтарамі заключаюцца адпаведныя дамовы на не эксклюзіўнае аўтарскае права. Аплата ажыццяўляецца за кожны пераклад аўтарскіх тэкстаў на новую замежную мову.

Паколькі праект ставіць сваёй мэтай папулярызацыю аўтараў і іх творчасці, прадугледжваецца, што творы будуць друкавацца ў прэсе і размяшчацца на некамерцыйных партнёрскіх рэсурсах той краіны, на мове якой здзейснены пераклад.




Праект #FreeAllWords існуе ўжо болей за год, за гэты час больш за 130 тыс. слоў украінскіх і беларускіх аўтараў былі перакладзены на 13 моў – дацкую, англійскую, фінскую, французскую, нямецкую, венгерскую, італьянскую, латышскую, літоўскую, нарвежскую, партугальскую, румынскую і іспанскую.

Кантактная група праекта #Freeallwords – contact@freeallwords.org

Падрабязней пра праект можна даведацца на сайце праекта #Freeallwords.

Да ведама: Еўрапейская рада пісьменнікаў (European Writers' Council (EWC) – федэрацыя, у якую ўваходзяць 46 пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый з 30 краінаў Еўрасаюза, а таксама Беларусі, Ісландыі, Нарвегіі, Турцыі і інш. Агулам Рада прадстаўляе інтарэсы каля 160 000 аўтараў, якія ствараюць тэксты на 31-й мове.

Партнёры праекта: Аб'яднанне аўтараў і перакладчыкаў Швейцарыі (Authors and Translators of Switzerland (A*dS), Саюз пісьменнікаў Нарвегіі (Forfatterforbundet), Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў, Літоўскі саюз пісьменнікаў.

zbsb.info

# ЛІКВІДАВАНА ВЫДАВЕЦТВА "КНІГАЗБОР", ЯКОЕ ПРАЦАВАЛА 28 ГАДОЎ

Выдавецтва "Кнігазбор" афіцыйна выключылі з Адзінага дзяржаўнага рэгістру. Пра гэта паведаміў кіраўнік выдавецтва Генадзь Вінярскі.




Пра выключэнне з Адзінага дзяржаўнага рэгістру (АДР) паведаміў на сваёй старонцы ў фэйсбуку дырэктар выдавецтва Генадзь Вінярскі. "Усё, і юрыдычна выдавецтва "Кнігазбор" няма. Эпоха Кнігазбору (17.03.1995 – 26.10.2023)", – напісаў ён на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Пра магчымую хуткую ліквідацыю выдавецтва Генадзь Вінярскі паведамляў яшчэ ў студзені 2023 года. У гэты час пасля доўгага перасleду выдавецтва пачаўся працэс яго ліквідацыі. У снежні 2022 года Міністэрства інфармацыі на месяц прыпыняла яго дзейнасць.

"Кнігазбор" працаваў амаль 28 гадоў. Выдавецтва выпусціла каля 3 тысяч найменняў кніг, ладзіла прэзентацыі, сустрэчы з аўтарамі, выставы.

У студзені 2021 года Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржаўнага кантролю забраў тэхніку і заблакаваў рахунак выдавецтва. Беларускія выдавецтвы падазравалі ва ўхіленні ад сплаты падаткаў. У чэрвені выдавецтва атрымала паведамленне пра магчымасць ізноў карыстацца банкаўскім рахункам.

Год таму, у кастрычніку 2022 года, сетка дзяржаўных кнігарняў "Белкніга" разарвала дамовы з "Кнігазборам", а таксама іншымі выдавецтвамі – "Янушкевіч" і "Галіяфы", якія друкуюць кнігі на беларускай мове.

novychas.online

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# Наталля Гардзіенка: У Беларусі ў гістарычнай навуцы адбываецца катастрофа

Працяг са старонкі 1.

Дакументы пра гэта зберагліся ў архіўных зборах Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк). Захаванне памяці пра ахвяр бальшавізму стала неад'емнай часткай місіі паваенных беларускіх эмігрантаў на Захадзе, іх рэпрэзентацыі незалежнай Беларусі. І гэта наўпрост перагукаецца з дзейнасцю, якую ў дачыненні да цяперашніх рэпрэсаваных у Беларусі ажыццяўляе сучасная эміграцыя. Даклад быў прыняты добра, было багата пытанняў, у тым ліку й ад украінскіх калег. Тэкст будзе апублікаваны ў чарговым выпуску альманаху "Запісы БІНіМ".

Па-за ўласным дакладам я слухала даклады калег на той самай секцыі па праблемах дэкаланізацыі. Як чалавека, які мае багата дачыненняў з рознымі бібліяграфіямі, вельмі ўразіла праца Наталлі Гарковіч па публікацыі бібліяграфіі "Менскіх эпархіяльных ведамасцяў", што выходзіць у лонданскім выдавецтве "Skaryna-Press". На біяграфічнай секцыі, арганізаванай доктарам Алесем Смаленчуком, зацікавілі даклады пра Сяргея Сіняка (Хмару) і Кастуся Езавітава, абодва – дзеячы эміграцыі, таму і мая цікавасць да іх зразумелая.

Рада, што змагла паслухаць калег на круглым стале "Гісторыкі Беларусі і актуальныя выклікі". Шмат размоваў было і ў кулуарах. І гэта заўсёды надзвычай важная частка кангрэсаў. Пабачыла багата калег, у тым ліку й тых, з якімі не бачылася колькі дзесяцігоддзяў, мела магчымасць абмеркаваць агульныя праблемы, супольныя праекты, пазнаёмілася з новымі людзьмі. Такім чынам, для мяне асабіста Кангрэс у Гданьску быў плённым, і я шчыра ўдзячная ягоным арганізатарам за магчымасць удзелу.

Але я разумею, чаму можа ісці гаворка пра катастрафічнасць сітуацыі.

На першых кангрэсах, здаецца, большасць удзельнікаў былі з Беларусі. Часам нават і мне закідалі, што панэль па замежжы можна спакойна арганізоўваць у Менску з тымі ж удзельнікамі, не абавязкова ехаць у Коўна. Памятаем і спробы арганізатараў (няўдалыя) адзін год зладзіць Кангрэс у Менску. Цяпер жа пераважная большасць удзельнікаў знаходзяцца ў замежжы, з Беларусі прыехалі або ўдзельнічалі анлайн адзінкі. І гэта адлюстраванне катастрафічных змен у беларускай навуцы апошніх гадоў. Кангрэс рызыкуе ўрэшце ператварыцца ў цалкам эміграцыйнае мерапрыемства. Але гэта, па-мойму, не змяншае важнасці правядзення гэтых з'ездаў навукоўцаў.

Можна згадаць сітуацыю, у якой апынуліся беларускія навукоўцы на Захадзе пасля Другой сусветнай вайны. Некаторыя з іх знаходзілі магчымасці ў новых складаных умовах эміграцыі працягваць доследы ў розных амерыканскіх, канадскіх, еўрапейскіх універсітэтах. Аднак тады не было такіх маштабных беларусаведных канфэрэнцый, як цяперашнія кангрэсы. У 1970-х зладзілі некалькі Тыдняў беларускіх студыяў у Канадзе з удзелам некалькіх дзясяткаў даследнікаў, і гэта былі найбольш значныя такога кшталту навуковыя менавіта беларускія форумы. Цяперашнія Кангрэсы даследнікаў Беларусі, нават калі яны ператворацца ў менавіта эміграцыйныя навуковыя форумы, застануцца важнымі пляцоўкамі для даследнікаў.

### "На Кангрэсе ў Гданьску ад розных калег чула, што самае важнае – застацца ў прафесіі"

**– Сотні беларускіх навукоўцаў за апошнія тры гады вымушаны былі з'ехаць з Беларусі, у іх ліку і вы. Ці ўдаецца вам і вашым калегам працягваць паўнавартасную навуковую працу за мяжой? Што і хто ўплывае на магчымасці беларускіх даследнікаў займацца вывучэннем праблемаў радзімы, пакінуўшы яе?**

– Варта заўважыць, што мае калегі сталі выязджаць з Беларусі ў выніку ціску і чыстак і ў Інстытуце гісторыі ў Менску, і ў Гарадзенскім універсітэце значна раней. Аднак цягам апошніх гадоў эміграцыя стала сапраўды больш інтэнсіўнай.

Зразумела, што тыя, хто з'ехаў раней, цяпер у лепшым становішчы. Часам калегам даводзіцца выязджаць у нікуды, каб ратавацца ад рэпрэсій. Зусім незапланаваная была й мая эміграцыя. Аднак маім паратункам стала ў пэўным сэнсе тэма, якой я займалася яшчэ ў Беларусі – гісторыя эміграцыі. Напрацаваныя за два дзесяцігоддзі кантакты з рознымі структурамі беларускага замежжа, з арганізацыямі, якія з ім працуюць, далі свой плён. Я атрымала вялікую падтрымку, за якую ўдзячная і Беларускаму Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, і Беларускай фундацыі Крачэўскага, і былому Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына", і іншым структурам і канкрэтным асобам на эміграцыі.

Сёння я фактычна магу працягваць займацца тым жа, чым займалася ў Беларусі. Але мой выпадак, напэўна, можна лічыць выключным. Ведаю, што калегам бывае значна складаней знаходзіць працу, стажыроўкі, падтрымку для сваіх даследаванняў у навуковых інстытуцыях Еўропы, складана заставацца ў "сваёй тэме". Часам даводзіцца шукаць магчымасці і проста працаваць дзеля заробку, каб забяспечваць сябе і сваіх блізкіх. На Кангрэсе ў Гданьску ад розных калег чула, што самае важнае – застацца ў прафесіі.

Займацца гістарычнымі даследаваннямі на эміграцыі, безумоўна, складаней, асабліва для тэм, завязаных на беларускіх архівах. Аднак, як сведчыць практыка, заставацца ў прафесіі магчыма. Часта могуць дапамагчы калегі, што выехалі раней. Мне здаецца, узаемадапамога сярод беларускіх гісторыкаў і агулам інтэлектуалаў на эміграцыі даволі значная, і гэта вельмі важна. Калегі дзеляцца інфармацыяй пра гранты, стажыроўкі, канферэнцыі, выданні, дапамагаюць уладкоўвацца, калі ёсць такія магчымасці. Нават з'яўляецца адчуванне, што, нягледзячы на геаграфічную раскіданасць, прафесійная супольнасць гісторыкаў на эміграцыі зрабілася больш зніставанаю. Магчыма, гэта толькі маё ўяўленне як новаспечанай эмігранткі, але на Кангрэсе ў Гданьску ў мяне былі менавіта такія адчуванні.

**– Ці можаце сказаць, якія канкрэтна тэмы і праблемы вы цяпер даследуеце? І чым адрозніваецца ваша праца ў эміграцыі ад той, якой вы займаліся ў Беларусі?**

– Як і раней, працягваю займацца тэмай гісторыі й культуры беларускай эміграцыі. Як і раней, з'яўляюся сябрам Управы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку – інстытуцыі, якая ад 1951 году аб'ядноўвае беларускіх інтэлектуалаў і творцаў на эміграцыі. Як галоўная рэдактарка альманаху "Запісы БІНіМу", працягваю працу над чарговымі ягонымі выпускамі. У супрацы з калегам па БІНіМе Лявонам Юрэвічам, а таксама Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" далей працягваем выдаваць спадчыну беларускіх эмігрантаў. Сёлета ўжо пабачыў свет зборнік "Выбранага" паэта Міхася Кавыля, неўзабаве з друкарні выйдзе томік выбраных прац айца Льва Гарошкі. На варштаце таксама вялікі альбом-даведнік па беларускіх пахаваннях на Захадзе і розныя іншыя выданні.

Безумоўна, самі ўмовы працы змяніліся. Парушыліся ранейшыя механізмы, асабліва звязаныя з выданнем кніг. Недасяжнымі зрабіліся некаторыя архіўныя матэрыялы. Аднак знаходзяцца новыя магчымасці, якія мы й выкарыстоўваем. Прынамсі, у кнігавыдавецтве наладзіліся добрыя сувязі з выдавецтвам Fond Kamunikat.org у Беластоку. У планах на найбліжэйшыя гады зноў каля дзясятка новых выданняў, і ў гэтым для мяне, бадай што, ад эміграцыі нічога не змянілася.

### "Дасведчанага гісторыка або архівіста немагчыма замяніць, проста калі набраць выпускнікоў з гістфаку"

**– Не так даўно па Беларусі пракацілася новая хваля пагрому навуковых асяродкаў, у прыватнасці, прайшлі масавыя звальненні супрацоўнікаў архіваў. Вы таксама архівістка і можаце прафесійна ацаніць наступствы такіх дзеянняў улады для беларускай гістарычнай (і не толькі) навукі. Якой вы бачыце яе будучыню ў Беларусі?**

– Безумоўна, тое, што сёння адбываецца ў Беларусі і ў архівах, і ў гістарычнай навуцы, выглядае сапраўднай катастрофай. Выцясненне прафесіяналаў з навуковых установаў не можа не адбіцца на ўзроўні працы, якасці даследаванняў.

Дасведчанага гісторыка або архівіста немагчыма замяніць, проста калі набраць выпускнікоў з гістфаку. Чалавек сыходзіць разам з усімі сваімі ведамі, часам разам з тэмаю, якою ніхто іншы проста не займаецца. Каб выгадаваць новага спецыяліста аналагічнага ўзроўню, неабходныя гады. Вынікі тых чыстак, якія адбываюцца сёння, будуць адгукацца беларускай навуцы цягам доўгіх гадоў.

Адной з важных праблемаў робіцца ўсё большы разрыў паміж навукоўцамі, якія, нягледзячы на складанасці, працягваюць працаваць у Беларусі, і тымі, хто змушаны быў выехаць на эміграцыю. Чым далей, тым большым будзе гэты разрыў, тым складаней яго будзе пераадольваць. І тым важнейшая роля кангрэсаў даследнікаў Беларусі як пляцоўкі, дзе гэты падзел паміж калегамі ў эміграцыі і ў Беларусі магчыма было б хоць крыху мінімізаваць.

svaboda.org

**навіны**

# Батумі: школа для маленькіх беларусікаў

У Батумі на базе прасторы "аКсяродак" адчыняецца беларуска-грузінска-французская школа, дзе будуць вучыцца дзеткі з 1 па 6 клас.

Асаблівасцю гэтай школы будзе тое, што дзякуючы ёй будзе магчымасць афармлення ВНЖ, а таксама ў школкі будзе грузінская атэстацыя.

Пра школу распавядае адна са стваральніц – Аксана Акуневіч:

– Гэта школа, якая разлічана на дзяцей беларусаў, якія знаходзяцца зараз у Батумі. Мы адкрываем з 1-га па 6-ты клас. Хутчэй за ўсё, гледзячы па запытах, гэта будзе пачатковая школа. І на гэты год у нас толькі 26 месцаў па квоце грузінскай. У нас будуць тры дні, дзе навучанне толькі на беларускай мове, там будуць абавязковыя прадметы – беларуская мова з літаратурай, матэматыка, сусвет і гісторыя і геаграфія Беларусі "Мая краіна Беларусь". А два дні на тыдзень будзе грузінская частка. Там будуць дзве гадзіны грузінскай мовы, адна гадзіна французскай мовы.

Па словах Аксаны, у школе будуць таксама заняткі па грузінскім мастацтве:

– І яшчэ адна гадзіна шахмат у адзін дзень. І ў адзін дзень – грузінскае мастацтва. Гэта аб'яднаны прадмет, дзе грузінскія танцы, грузінскія спевы, музыка і мастацтва малявання.

**– А выкладчыкі ў беларускай частцы – гэта беларусы, якія жывуць тут, ці будуць прыязджаць людзі з Тбілісі ці іншых гарадоў?**

– Гэта тыя людзі, якія выбралі Батумі для пражывання.

Беларусы Батумі змогуць аддаць сваіх дзетак у гэтую школу на платнай аснове. Навучанне штомесяц будзе каштаваць 500 лары (прыкладна 200 долараў). Даведацца падрабязнасці па навучанні ў гэтай школе магчыма праз тэлефон і тэлеграм: +995 599 63 51 95 (Аксана)

У Тэлеграме: @aksiarodak

Ці ў суполцы @school_aksiarodak.

racyja.com




# Сустрэча Razam e.V. з прадстаўнікамі СМІ пра стан грамадзянскай супольнасці Беларусі

"Тры гады надзвычайнага становішча: стан грамадзянскай супольнасці Беларусі сёння" („Drei Jahre Ausnahmezustand: Die belarusische Zivilgesellschaft im Herbst 2023") – пад такой назвай 27 верасня адбылася трэцяя ў гэтым годзе сустрэча з прадстаўнікамі СМІ, арганізаваная беларускім згуртаваннем RAZAM e.V.

У двухгадзіннай размове і наступнай дыскусіі ўзялі ўдзел былы амбасадар Нямеччыны ў Мінску Манфрэд Хутэрэр, філосаф Вольга Шпарага і сябра праўлення Razam Марыя Рудзь. Акрамя аналізу сённяшняй сітуацыі і актуальных формаў пратэсту ўнутры і па-за межамі Беларусі былі закрануты тэмы вызвалення палітычных вязняў, падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасці ды іншыя. Марыя Рудзь апавяла пра небяспекі і выклікі, з якімі на працягу апошніх трох гадоў сутыкаецца беларуская дыяспара. У сувязі з актуальным Указам, які датычыць выдачы дакументаў грамадзянам РБ за мяжой, да нямецкіх палітыкаў быў накіраваны заклік як мага хутчэй стварыць сістэмнае рашэнне для беларусак і беларусаў у Нямеччыне.



У канцы сустрэчы было абмеркавана пытанне спрашчэння візавага рэжыму для грамадзян Беларусі. Былы амбасадар запэўніў: "Нямеччына не зацікаўлена ў паўстанні новай жалезнай заслоны ў Еўропе, мы павінны зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць гэтага".

Сустрэчу мадэравала журналістка Каця Арцёменка.

Імпрэза адбылася ў рамках праекта Europäisches Netzwerk für Belarus пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Нямеччыны.

razam.de

# У Італіі створана новае згуртаванне беларусаў "Krajby"

Арганізацыя створана ў італьянскім Рыме, і яна плануе аказваць дапамогу беларусам, якія пераязджаюць у гэтую краіну.

Пра мэты гэтай арганізацыі распавядае адна са стваральніц Ларыса Іўчык:

– Наша асноўная задача – дапамога беларусам, якія прыехалі сюды апошнім часам, дапамагчы ім інтэгравацца. Гэта пачынаючы з афармлення дакументаў, падачы заяў, каму куды трэба, міжнароднай абароны для студэнтаў і гэтак далей.

Паводле слоў Ларысы, сярод сябраў арганізацыі ёсць як людзі, якія даўно прыехалі ў Італію, так і тыя, што пераехалі за апошнія два гады:

– Самы ветэран у гэтым гурце – гэта я. Я беларуска, родам з Менску, і жыву тут ужо 26 гадоў . Пасля 2020 года я пазнаёмілася з многімі беларусамі, якіх раней не ведала. За апошнія два гады ў нашай групе прыбавілася больш за ўсё хлопцаў.

Прадстаўнікі арганізацыі плануюць пісаць праекты на стварэнне дома для беларусаў, якія пераехалі ў Італію. А самі актывісты ўжо даўно ўдзельнічаюць у акцыях, якія ладзяць беларусы Італіі.

racyja.com



навіны

# Вынікі даследавання: беларусы ў эміграцыі пачынаюць больш размаўляць па-беларуску

Цэнтр дыялогу імя Юльюша Мерашэўскага апублікаваў вынікі даследавання "Беларуская эміграцыя ў Польшчы". Мы выпісалі для вас самае цікавае.

### Моўнае пытанне

Палова рэспандэнтаў выбрала варыянт запоўніць анлайн-анкету, на выніках якой грунтуецца даследаванне, па-беларуску, 34% – па-руску і 16% – па-польску.

Большасць беларусаў да ад'езду ў Польшчу размаўлялі па-руску (58 %), альбо па-руску і па-беларуску (35 %). Доля выключна беларускамоўных – усяго 5 %. Аднак пасля ад'езду ўжыванне рускай мовы скарачаецца, а беларускай – расце.

Цяпер, у эміграцыі, з сям'ёй і роднымі па-беларуску альбо па-беларуску і руску размаўляе палова апытаных, а з сябрамі і знаёмымі – 46 %. Варта заўважыць, што ў апытанцы не было варыянту "па-беларуску і па-польску", магчымы быў толькі адказ "іншая мова".

Пры гэтым амаль усе апытаныя беларусы дэкларавалі веданне беларускай і рускай моў. 89% заявіла, што ведае прынамсі на базавым узроўні польскую і ангельскую, а палова – украінскую.

Толькі кожны пяты (21%) заявіў, што свабодна чытае і размаўляе папольску.

### Іншыя краіны і народы

"Нягледзячы на тое, што Беларусь уцягнутая ў агрэсію Расіі ва Украіне, большасць апытаных лічаць, што польскі бок захоўвае ў дачыненні да Беларусі сяброўскае стаўленне. Больш за тое, з усіх пяці суседзяў Беларусі менавіта Польшча лічыцца найбольш прыязнай да Беларусі", – адзначаюць аўтары рапарту па выніках даследавання Лукаш Мазуркевіч і Гжэгаж Сыгноўскі.

"Існуюць істотныя адрозненні паміж тым, як рэспандэнты ацэньваюць стаўленне ўладаў асобных дзяржаў і стаўленне народаў. Пры ацэнцы адносін асобных народаў да беларусаў у кожным выпадку пераважаюць указанні на сяброўскае стаўленне. У выпадку з расіянамі гэтая перавага адносна невялікая (39% да 34%). Безумоўна, найбольш прыязным народам у адносінах да беларусаў, на думку апытаных, з'яўляюцца палякі – толькі 2% апытаных прытрымліваюцца іншага меркавання. У выпадку з украінцамі меркаванае стаўленне да беларусаў ужо не такое адназначнае. Што праўда, большасць апытаных, а гэта 48%, лічаць, што ўкраінцы прыязна ставяцца да беларусаў, але ўжо 20% прытрымліваюцца супрацьлеглага меркавання, – лічаць польскія сацыёлагі. – <…> Апытаныя аднак інакш бачаць культурную блізкасць паміж асобнымі народамі. Украінцы і палякі – гэтыя народы, на думку апытаных, безумоўна культурна блізкія беларусам. У сваю чаргу, найслабейшыя культурныя сувязі беларусы адчуваюць у дачыненні да латышоў і расіян".




Літоўцаў беларусы лічаць сярэдне культурна блізкімі, але называюць супольную з імі дзяржаву ВКЛ як гістарычную і дзяржаўную традыцыю, з якой сучасная Беларусь і беларусы павінны чэрпаць больш за ўсё (так лічыць амаль палова апытаных).

### 45% беларусаў, якія з'ехалі ў Польшчу, плануюць застацца там жыць

22% апытаных гатовыя вярнуцца ў Беларусь, калі дазволіць сітуацыя, 28% не вызначыліся з планамі на будучыню, а 5% жадаюць з'ехаць з Польшчы ў іншую краіну, але не ў Беларусь. Толькі 1% апытаных заявілі аб жаданні вярнуцца ў Беларусь у найбліжэйшы час.

Паводле апытання, асноўнай прычынай, якая заахвоціла беларусаў, што цяпер знаходзяцца ў Польшчы, пакінуць Беларусь, зрабіўся страх перад рэпрэсіямі на радзіме (86%).

56% апытаных не падтрымліваюць кантактаў з беларускімі арганізацыямі, якія працуюць у Польшчы.

Поўны варыянт справаздачы з даследавання "Беларуская эміграцыя ў Польшчы" можна прачытаць па спасылцы.

А па гэтай спасылцы – вынікі даследавання грамадскай думкі "Палякі пра Беларусь і беларусаў".

**Паводле budzma.org і racyja.com**

# Заява Беларуска-Амерыканскага Задзіночання адносна падзеяў у Ізраілі

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне рашуча асуджае брутальны напад баевікоў ХАМАС на мірнае насельніцтва Ізраілю.

Мы выказваем нашу самую шчырую падтрымку народу Ізраіля ў гэты трагічны час. Спачуваем тым, хто страціў сваіх родных і блізкіх, шануем памяць тых, чые жыцці былі перапыненыя пад час гэтых страшных падзей.

Паміж беларускім і ізраільскім народамі існуюць глыбокія гістарычныя стасункі і мы вельмі блізка да нашых сэрцаў прымаем тыя пакуты, якія сёння даводзіцца перажываць ізраільцянам.

Мы падзяляем імкненне народа Ізраіля абараніць свае правы на мірнае жыццё, на ахову сваёй краіны ад агрэсіі, на абарону права грамадзян краіны будаваць сваё жыццё ў міры і спакоі.

Мы заклікаем міжнародную супольнасць разам супрацьстаяць любой форме тэрарызму, якая не толькі пагражае міру, але і размывае нашу агульную чалавечнасць. Давайце разам рашуча супрацьстаяць распаўсюджванню гвалту і адстойваць справу мірнага суіснавання.

Жадаем ізраільскаму народу годна перажыць страты, перамагчы тэрарызм і выйсці з гэтых выпрабаванняў яшчэ больш моцным і згуртаваным.

**Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне**

# "Сармат". Новы відэапраект пра шляхецкую культуру ад "Будзьма!"

У відэапраекце "Сармат" размаўляем пра шляхецкую культуру ў розных яе аспектах: як жылі, за што жылі, пра што думалі і марылі нашы продкі-шляхцічы. Вядоўца праекта "Сармат" Васіль Калач – акцёр, рэжысёр, выкладчык гістарычнага фехтавання.

У першай серыі распавядаем пра гісторыю шаблі, бо шляхціч – той, хто народжаны для шаблі. Калі шабля ўвайшла ў нашую вайсковую традыцыю? Чаму гэтая зброя называлася ў нас і "батарувка", і "зыгмунтоўка", і карабэла ці драгунка? Якой формы магла быць шабля і як называліся яе дэталі? Калі і як шляхцічаў пачыналі вучыць фехтаванню?

У другой серыі разбурым распаўсюджаныя, але памылковыя меркаванні. Маўляў, шляхта – гэта такія заможныя людзі, якія сабраліся, прыдумалі сабе гербы і дрэс-код, ды вырашылі, што яны тут галоўныя. Або і такое ёсць: шляхта – гэта злыя польскія паны, якія прыгняталі беларускага батрака ў лапцях і сярмязе. Кім жа была шляхта насамрэч?

Глядзіце цыкл "Сармат", дзяліцеся ўражаннямі ў каментарах пад відэа, дасылайце нам свае прапановы і ідэі для наступных выпускаў на электронную пошту thebudzma@gmail.com або ў тэлеграм-бот @BudzmaSuviaz_Bot. Новыя серыі відэапраекта "Сармат" будуць выходзіць на нашым ютуб-канале (youtube.com/c/TheBudzma) штопятніцу. Падпісвайцеся на канал, каб не прапусціць.

турма

# ПРЫСУД ПАЎЛУ МАЖЭЙКУ І ЮЛІІ ЮРГІЛЕВІЧ ПАКІНУТЫ БЕЗ ЗМЕН

Вярхоўны суд не задаволіў апеляцыйныя скаргі журналіста і культурніцкага менеджара Паўла Мажэйкі і адваката Юліі Юргілевіч.

Паседжанне прайшло ў закрытым рэжыме. Судовая калегія пад старшынствам суддзі Паўла Каршуновіча пакінула прысуд у сіле, а скаргі – без задавальнення. Палітвязняў у хуткім часе перавядуць у калоніі. У ліпені іх прысудзілі да 6 гадоў пазбаўлення волі, абвінаваціўшы ў садзейнічанні экстрэмісцкай дзейнасці групай асоб па папярэдняй змове.

Паводле матэрыялаў, Юлія ў тэлефоннай размове сказала Паўлу пра сваё выключэнне з адвакатуры і прысуд Алесі Пушкіну. Абвінавачанне лічыць, што Мажэйка перадаў гэтую інфармацыю неўстаноўленым асобам для размяшчэння на "Белсаце", які прызнаны экстрэмісцкім фармаваннем.

Мажэйка і Юргілевіч не прызналі віну. Юлія заявіла, што яе трымаюць у "быдлячых умовах" і не далі азнаёміцца са справай. Да суда Мажэйка і Юргілевіч адмовіліся даваць паказанні. На судзе Мажэйка адказвае на пытанні выбарачна. Бацька журналіста Іван Мажэйка адмовіўся даваць паказанні супраць сына.

Павел Мажэйка – заснавальнік культурнай прасторы "Цэнтр гарадскога жыцця". У ім у 2021 годзе праходзіла выстава прац Алеся Пушкіна, праз якую мастака затрымалі і пасадзілі на 5 гадоў. У ліпені Алесь Пушкін памёр у калоніі.

racyja.com



# ЗМІТРА ДАШКЕВІЧА АСУДЗІЛІ НА ЯШЧЭ АДЗІН ГОД КАЛОНІІ СТРОГАГА РЭЖЫМУ

Зміцер Дашкевіч мусіў быў выйсці на волю 11 ліпеня, аднак супраць яго пачалі новую крымінальную справу за нібыта "непадпарадкаванне адміністрацыі". 19 кастрычніка, суддзя Тацццяна Дзеравянка агучыла прысуд – год калоніі строгага рэжыму.

"Яшчэ адзін пакутлівы год па ШІЗА, карцарах і ізалятарах. Яшчэ адзін год жыцця з вырваным сэрцам", – напісала ў фэйсбуку яго жонка Наста Дашкевіч.

Змітру Дашкевічу за "непадпарадкаванне адміністрацыі" дадалі яшчэ адзін год строгага рэжыму – самы максімум, піша Наста Дашкевіч. Хоць справа ў судзе "разбілася ўшчэнт", адзначае яна.

"За што фармальна па паперах? У рэальнасці, канечне, не гэта стала нагодай і прычынай. Але ў паперы паклалі: не выйшаў на прагулку, адзін раз з кімсьці паразмаўляў, ляжаў на падлозе ў ізалятары пасля начнога змагання з холадам. За гэта мой муж атрымаў 1 год строгага рэжыму".



Нагадаем, Змітра Дашкевіча затрымалі 23 сакавіка 2022 года пасляператрусу ў кватэры. Спачатку яго арыштавалі на 15 сутак па адміністрацыйным артыкуле, а затым паразатрымалі ўжо па крымінальнай справе па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэксу ("Трупавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак") за ўдзел у акцы пратэсту 23 жніўня 2020 года. Таксама абвінавачанне было выстаўленае ягонай жонцы Насце.

14 ліпеня 2022 года ў судзе Маскоўскага раёна Мінска быў вынесены прысуд. Суддзя Тацццяна Піроржнікава прызнала палітвязня і ягоную жонку, якая нядаўна нарадзіла чацвёртае дзіця, вінаватымі і прызначыла Змітру паўтара года калоніі, а Насце – тры гады "хатняй хіміі".

МУС уключыў палітвязня ў спіс "экстрэмістаў".

11 ліпеня 2023 года палітвязень мусіў выйсці на волю, аднак на яго завялі новую крымінальную справу за "злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі" (арт. 411 КК) і перавялі ў Следчую турму № 8.

У судзе Барысаўскага раёна 28 ліпеня 2023 года разглядалася скарга абаронцы Дашкевіча на пастанову аб прымяненні меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Рашэнне прымала суддзя Тацццяна Шыман, скаргу не задаволілі.

А 11 кастрычніка ў судзе Барысаўскага раёна над Змітром распачаўся новы суд па арт. 411 КК. Справу разглядала суддзя Тацццяна Дзеравянка.

novychas.online

# МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА ЗА 5 МЕСЯЦАЎ 5 РАЗОЎ АДПРАЎЛЯЛІ Ў ШІЗА



За пяць месяцаў, з 10 траўня гэтага года, у дачыненні да Мікалая Статкевіча 9 разоў ужываліся розныя спагнанні, расказалі яго жонцы Марыне Адамовіч у адміністрацыі калоніі.

Гэта значыць, што ўсяго за 5 месяцаў Статкевіча 5 разоў адпраўлялі ў штрафны ізалятар (апошні раз – 2 тыдні таму), пазбаўлялі права на працяглае і на кароткае спатканні, пазбаўлялі магчымасці атрымаць пасылку.

"1238 дзён за кратамі. 254 дні без вестачкі…" – піша Марына Адамовіч. Мікалай Статкевіч знаходзіцца ў няволі ўжо 3 гады і 4 месяцы – яго затрымалі за тры месяцы да прэзідэнцкіх выбараў 2020 года. Суд хоча, каб палітык правёў у калоніі 14 гадоў.

racyja.com

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# Валянціна Аксак: ЭМІГРАЦЫЯ – ГЭТА БОЛЬ ВЫГНАННЯ

Паэтка Валянціна Аксак прэзентавала ў беластоцкім хабе "Новая зямля" зборнік вершаў "Уцёкі з Палесся". У ім сабраныя творы, напісаныя ёю за апошнія два гады.




"Бомбы з леташняй вясны паляцелі ў сёлетнюю восень" – так адразу акрэсліла свае самыя свежыя перажыванні паэтка, маючы на ўвазе мінулагодні пачатак вайны ва Украіне і кастрычніцкі напад тэрарыстаў у Ізраілі. Спадарыня Валянціна прапанавала ўшанаваць хвілінай маўчання ахвяр лукашэнкаўскага рэжыму ў Беларусі, палеглых за незалежнасць Украіны, а таксама забітых у Святой Зямлі.

Верш Шабат", які напачатку літаратурнага спаткання прачытала аўтарка, натуральна, ёсць творам, напісаным Валянцінай Аксак у эміграцыі. Гэтая эміграцыя цягнецца ўжо два гады і ўсе вершы з новага зборніка з'явіліся па-за межамі радзімы.

**– Аб чым гэтыя вершы?**

– Вершы гэтыя перш за ўсё пра боль выгнання з Радзімы, боль змушанай блуканкі па свеце. Гэта не толькі мой асабісты боль. Гэта боль тысяч і сотняў тысяч беларусаў, якія выгнаныя фактычна з роднага кутка і змушаныя проста на голым месцы ў новым свеце пачынаць сваё жыццё. Вельмі часта гэта абрынаецца трагедыямі асабістымі, не ўсе вытрымліваюць гэту новую для іх рэальнасць. На вялікі жаль, гэты боль стаў, як гэта не парадаксальна, нейкім творчым імпульсам. Ну, не тое, што імпульсам. Калі гэты боль нахлынае, яму нейкае выйсце патрабуецца, інакш можна звар'яцець.

**– Тым не менш, у зборніку прысутнічаюць творы пра каханне. Як і боль, і каханне спалучаюцца?**

– Каханне гэта ж такое ўніверсальнае пачуццё. Яно бывае і на вайне, і ў палоне, і нават у канцэнтрацыйных лагерах. Яно абрынаецца на чалавека незалежна ад таго, дзе ён знаходзіцца, абставіны тут не пры чым. Добра, калі ў камфортных абставінах каханне, але нікуды ад яго не падзецца, калі яно і ў трагічных сітуацыях узнікае. А ў прынцыпе, вельмі добра, што яно ўзнікае нават у гэтай дарозе, якая доўжыцца для мяне ўжо трэці год. І гэта таксама адзін з ратункаў, магчымасць адчуць чалавечую цеплыню побач і гэты боль паменшыць, дзякуючы таму, што побач нехта той, хто твой боль разумее і імкнецца яго нейкім чынам паменшыць.

**– Паколькі вы напачатку сустрэчы прасілі аб хвіліне маўчання, вас вельмі ўразілі апошнія падзеі – Украіна, Ізраіль?**

– Вельмі. Гэта ўсё вельмі ўразіла. Здавалася, што мы першае пакаленне, якое пражыве ўсё сваё жыццё, не зведаўшы непасрэдна вайны. Так, і на наш час выпалі войны, але яны былі недзе далёка, яны не так моцна адгукаліся ў нашых сэрцах. Ну калі паляцелі бомбы 24 лютага 2022 года на Кіеў, над усёй Украінай, гэта настолькі агаламшыла, што проста ў першы час немагчыма было паверыць, што гэта рэальнасць, што гэта не кіно, што гэта не сон дурны, не нейкія галюцынацыі, што пад гэтымі бомбамі цяпер апынуліся мільёны нашых паўднёвых суседзяў.

Ну а калі тэрарысты напалі на Святую Зямлю… Да гэтага часу, вось ужо тыдзень мінуў, немагчыма зразумець, як магло такое здарыцца. Ізраіль, які лічыўся такім абароненым ад усялякіх нападаў, які меў найлепшую ў свеце выведку, і раптам такое. І тады адчуваеш, наколькі ўсё крохка, і можа здарыцца вось тут і цяпер, што свет стаў такі як тонкі лёд. Ты ступаеш крок і не ведаеш, ці ты праваліўся пад лёд, ці ты пройдзеш па гэтай рацэ".

Новая кніга вершаў Валянціны Аксак пабачыла свет, дзякуючы беластоцкаму выдавецтву kamunikat.org. У выданні каля сотні яе твораў. Набыць кнігу можна выключна па-за межамі Беларусі праз выдавецтва і яго сайт.

radiounet.fm

# СВЯТЛАНА ЦІХАНОЎСКАЯ СУСТРЭЛАСЯ З ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ ЛІТВЫ

Кіраўнік ураду Літвы Інгрыда Шыманіце выказала падтрымку дэмакратычнай Беларусі і запэўніла, што Літва працягвае і будзе працягваць падтрымліваць Беларусь на міжнароднай арэне. Пра гэта інфармуе прэсавая служба Ціханоўскай.

Падчас сустрэчы Шыманіце заявіла, што патрабаванне да рэжыму ў Беларусі застаецца нязменным: вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных вязняў, правесці свабодныя выбары. Паводле прэм'еркі, Літва будзе працягваць падтрымліваць дэмакратычную Беларусь, з аднаго боку, а з другога – працягваць пашырэнне санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі за саўдзел у вайне супраць Украіны і рэпрэсіі супраць беларусаў.

Таксама ў паведамленні гаворыцца, што Святлана Ціханоўская і Інгрыда Шыманіце абмеркавалі недапушчальнасць змякчэння санкцый супраць калійных угнаенняў і іншых дзяржаўных прадпрыемстваў, якія падтрымліваюць рэпрэсіўны рэжым дыктатара Лукашэнкі.

racyja.com



навіны

# ЦІХАНОЎСКАЯ ВЫСТУПІЛА НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ Ў КІШЫНЁВЕ

Святлана Ціханоўская выступіла на міжнародным жаночым форуме ў Кішынёве з удзелам прэзідэнткі Малдовы Маі Санду і экс-прэзідэнткі Літвы Далі Грыбаўскайце.



Як паведамляе яе прэс-служба, сярод іншага Ціханоўская распавяла „пра жанчын, якія сталі героямі – такіх як Марыя Калеснікава, Вольга Калацкая, Наталля Хершэ, Кацярына Андрэева і Дар'я Чульцова, але многія з іх і зараз у турмах і падвяргаюцца катаванням і здзекам – Наста Лойка, Данута Пярэдня… больш 200 жанчын-палітвязняў зараз у Беларусі. Іх здароўе ў небяспецы. Паліну Шарэнда-Панасюк рэжым проста забівае, збіваючы, не перадаючы лекі, прыгаворваючы ўжо да трэцяга тэрміну…".

Як зазначыла Ціханоўская, сёння беларусы змагаюцца не толькі за свабодную Беларусь, але і за само існаванне краіны. „Беларусь – не Расея, а беларусы – не рэжым", – зазначыла лідарка АПКБ.

racyja.com

in memoriam

## ПАМЕРЛА БЕЛАРУСКАЯ ПАЭТКА НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ

3 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім пасля працяглай хваробы на 77-м годзе жыцця памерла беларуская паэтка Надзея Артымовіч.



Нарадзілася ў 1946 годзе ў Аўгустове пад Бельскам. Вырасла ў Бельску, да якога ставілася як да роднага горада і адводзіла яму шмат месца ў сваёй творчасці.

Скончыла Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, затым беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Пасля вяртання з вучобы працавала ў Бельскім доме культуры.

Дэбютавала ў беларускім тыднёвіку "Ніва" ў 1970 годзе. Была аўтарам некалькіх зборнікаў паэзіі, выдадзеных у Польшчы, а таксама зборніка "Дзверы", выдадзенага ў Мінску разам з беларускім паэтам Алесем Разанавым.

Жыла ў Бельску-Падляшскім. Была сябрам Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", а з 1992 года – таксама Аб'яднання польскіх пісьменнікаў. Узнагароджана залатым знакам "Заслужаны дзеяч культуры".

Паводле kamunikat.org

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім спадарыні Надзеі Артымовіч.**

## ПАМЕРЛА МІРАСЛАВА РУСАК

9 кастрычніка пайшла ў лепшы свет Міраслава Русак, найстарэйшая беларуска Вільні.

Беларушчына атачала Міраславу Русак з дзяцінства: яна была дачкою беларускага кнігара Станіслава Станкевіча, які ў міжваенныя часы меў кніжную краму зусім непадалёк ад Вострай брамы. Пра свайго тату і сваё дзяцінства ў міжваеннай Вільні Міраслава Русак напісала кнігу "Лявонава доля".

У пазнейшыя часы спадарыня Міраслава выкладала ангельскую ў школе. Прымала актыўны ўдзел у дзейнасці беларускіх арганізацый у Вільні.

Паводле t.me/vilniaus20

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім спадарыні Міраславы, а таксама ўсім, хто яе ведаў.**

### Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2023 года

**1 лістапада**
- 90 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Вячаслаў Адамчык, пісьменнік. Памёр у 2001-м.

**3 лістапада**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, памёр Міхаіл Кулеша, мастак.
- 40 гадоў таму, у 1983-м, памёр Антон Мартас (у манастве Апанас), архіепіскап, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аргенціне, Аўстраліі і ЗША, гісторык.

**7 лістапада**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, загінуў Хвёдар Ільяшэвіч, пісьменнік, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

**8 лістапада**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі, гісторык, мовазнавец. Расстраляны ў 1938-м.
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Міхась Явар (сапр. Карась), паэт. Памёр у 1933-м.
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памерла Вольга Бурнос, дзяячка эміграцыі ў Аўстраліі.

**12 лістапада**
- 400 гадоў таму, у 1623-м, забіты св. мучанік Язафат Кунцэвіч.

**13 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, забіты Уладзіслаў Казлоўшчык (сапр. Казлоўскі), паэт, выдавец.

**14 лістапада**
- 90 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Леанід Пракопчык, краязнавец, пісьменнік. Памёр у 1998-м.
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Уладзімір Клішэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**15 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Францішак Чарняўскі, каталіцкі святар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША. Памёр у 1979-м.

**16 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Леаніла Чарняўская, пісьменніца. Памерла ў 1976-м.

**17 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Кастусь Езавітаў, гісторык. Памёр у 1946-м.

**18 лістапада**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Язэп Лёсік, мовазнавец. Памёр у 1940-м.

**20 лістапада**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, нарадзілася Яўгенія Янішчыц, паэтка. Памерла ў 1988-м.

**25 лістапада**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памерла Людміла Махнюк (дзяв. Каліноўская), дзяячка эміграцыі ў ЗША.

**27 лістапада**
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, сябар Рады БНР, заснавальнік настаўніцкай семінарыі ў Барунах.
- 75 гадоў таму, у 1948-м, створана Згуртаванне беларусаў Канады.

**29 лістапада**
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Браніслаў Тарашкевіч, мовазнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (257), кастрычнік 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com